Цана асобнага нумару 20 грош.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

# ЗА ПРАЎДУ

## АДНАДНЁЎКА

Вільня, Чацьвер, 18-га сакавіка 1926 г.



## У Лізе Народаў.

У Лізе Народаў сябры яе ніяк ня здолелі дайсьці да нейкае ўгоды, каб прымірыць дамаганьні Нямеччыны з дамаганьнямі Польшчы і Бразыліі.

У выніку гэтага пастаноўлена адлажыць справу ўваходу Нямеччыны ў Лігу і яе Раду—да восені (на верасень). Тады ж будуць разглядаць і справу дамаганьняў Польшчы і Бразыліі, каб ім далі сталыя мейсцы ў Радзе Лігі.

„Gaz. Warsz. Por.“ сцьвярджае, што ўжо ніхто—навет і Францыя!—не гавора аб сталым мейсцы для Польшчы ў Радзе Лігі Народаў. Гутаркі йдуць толькі аб часовым, нясталым мейсцы, калі... агульны сход сяброў Лігі выбяра Польшчу на гэткае мейсца.

## Дзьве праўды.

Пад той час, як пасол Мятла, вярнуўшыся з падарожы па Радавых Рэспубліках, падае ў „Беларускай Ніве“ апісаньні вялікіх пасьпехаў у наладжаньні новага жыцьця ў СССР,—другі ўчасьнік падарожы соймавае дэлегацыі на Усход, пасол Ярэміч, зьмяшчае ў „Сялянскай Ніве“ нязвычайна панурыя абразы жыцьця ў Радавых Рэспубліках, пярэчучы словам свайго соймавага калегі. І вось, з увагі на тое, што абодва паслы — адзіныя беларусы, езьдзіўшыя ў СССР, беларускі чытач пэўне слушна недаўмявае: хто-ж з іх кажа праўду і хто ад гэтае праўды адыходзе, ці мо' яе ўкрывае?!

Мы ня будзем, аднак, тут, разьбірацца падробна ў тым, што пісалі і пішуць абодва беларускія паслы. Мы зьвернемся толькі да трэцяе стараны—да таго, што-ж і як пішуць *польскія* ўчасьнікі падарожы — прадстаўнікі польскіх сялянскіх радыкальных угрупаваньняў?

Вось-жа апошнія станулі зусім выразна не на старане пасла Ярэміча (хоць і назваўшага сябе прадстаўніком спэцыяльна беларускага сялянства!), а якраз на старане пасла Мятлы, з якім паны Брыль і ягоныя калегі ўсё-ж, здаецца, даволі значна разыходзяцца ідэйна. І тое, што яны пішуць аб творчай працы работніцка-сялянскае ўлады ў СССР, так далёка пакідае за сабой дужа асьцярожныя заявы п. Мятлы, што мы не адважаемся паўтарыць тут ані ўражаньняў з падарожы пасла Брыля, ані тым балей пасла Воевудзкага і ягоных партыйных таварышоў: у нашай перадачы яны лёгка могуць быць прызнаны „антыпаньствовымі“....

Але гэтага мала. Польскія паслы ня толькі пішуць аб тым, як запраўды выглядае жыцьцё ў „работніцка-сялянскім царстве“: яны ўстраіваюць публічныя лекцыі на тэму „Праўда аб Радавай Расеі“. Лекцыі гэтыя выклікаюць нязвычайнае зацікаўленьне сярод польскага грамадзянства, бо даюць яму весткі аб тым, што польская буржуазная прэса ведае *толькі для сябе*, але ад масаў *укрывае*. І вось у Варшаве, на заклік эндэцкае прэсы, нейкія цёмныя элемэнты стараюцца разьбіваць лекцыі паслоў-падарожнікаў прост сілай. Гэткі выпадак здарыўся ў мінулую нядзелю: грамада нейкіх падонкаў грамадзянства накінулася на вуліцы на пасла Брыля і цяжка пабіла яго, каб ня даць яму магчымасьці сказаць праўды аб тым, што ён бачыў сваімі вачыма.

Мы сказалі: буржуазія ведае праўду аб Радавых Рэспубліках *толькі для сябе*, бо вось вам найнавейшы доказ гэтага. Гэтымі днямі ў СССР едзе дэлегацыя ад імя польскага ўраду пад кіраўніцтвам вышэйшага ўрадоўца Гліваца дзеля вядзеньня перагавораў у справе *польска-радавае таргове ўмовы*. Што гэта знача, зразумее кожны, хто хоць на часіну задумаецца над пытаньнем: ці можа польская буржуазія наладзіць так патрэбную ей таргоўлю з многаміліённым краем, калі той знаходзіцца ў руіне і нэндзы, калі там пануе галіта і голад і безрабоцьце, калі сялянства яго галадае і ня мае за што купляць замежных тавараў? Ясна-ж, што не! Дык і прыходзіцца думаць, што апісаньні жыцьця СССР буржуазнымі газэтамі, з якімі так дзіўна згаджаецца тое, што там быццам бачыў пасол Ярэміч, далёка *адыходзяць ад праўды*. Бо-ж вынікі творчае працы, якую ўжо восем гадоў вядуць работнікі і сяляне ў СССР бяз ніякага ўчасьця буржуазіі, *запраўды вялікія* і сцьвярджаюць бясспрэчныя для нас *творчыя здольнасьці працоўных*.

Вось гэта і хоча ўкрыць ад працоўных Польшчы польская буржуазія, якая сама не баіцца „рызыкі“ і ўсемі сіламі імкнецца завязаць гарговыя зносіны з СССР, здабыць радавыя рынкі для сваіх заляжаўшыхся дома бяз ніякага руху і ходу тавараў. А масам і далей апісываюцца абразкі з часоў Вялікае Рэвалюцыі і грамадзкае вайны ў Расеі, калі запраўды лілася кроў, калі там панаваў голад, і калі стуль уцякалі прадстаўнікі польскае буржуазіі, выступаўшыя проці работніцка-сялянскае ўлады.

---

Колькі дзён назад у эндэцкай жываедзкай газэце „Dz. Wil.“ нейкі „Nauczyciel“ надрукаваў пісьмо, у якім пярэчыць ведамым усім фактам ліквідацыі польскім урадам беларускіх школ—шляхам вывазу вучыцялёў гэных школ на кракаўскія курсы. Вучыцялём гэтым, як ведама, абяцалі, што, скончыўшы курсы, яны вернуцца назад у свае школы,—а тым часам іх паназначалі ў польскія школы—і то бадай выключна ў каранной Польшчы, іх-жа старыя беларускія школы абсадзілі вучыцялямі-палякамі, ды гэтак зьнішчылі ўсю іх беларускасьць.

Вось, гэны обстаўскі „научыцель“ так нягодна лжэць, што няма патрэбы і адказваць на ягоную ілжу. Тут бачым і заяву аб тым, што пасьля скончэньня кракаўскіх курсаў „самі беларусы прасілі назначыць іх у Польшчу — каб пазнаць край і польскую мову“, і падзяку за тое, што іх адарвалі чуць ня гвалтам ад родных школ,—і розную іншую брахню падобнага гатунку.

Але, як кажуць, шыла заўсёды вылязе з мяшка! Так і тут: лішне ўжо добра паінфармаваны ананімны „научыцель“ аб тым, дзе каго ўлада назначыла ў школу, каб можна было паверыць, што гэта запраўды пісана недзе аж у Дунілавіцкім павеце, а не.... у Віленскім кураторыуме! Дый сьмешна зьмяшчаць **падзяку польскаму ураду** за ягоныя „дабрадзействы“ беларусам—**ананімна!..**

У сувязі з гэтым звараічваем увагу нашых чытачоў на зьмешчаную ніжэй інтэрпэляцыю ў справе аднаго з такіх „дабравольна“ астаўшыхся ў Польшчы вучыцялёў-беларусаў.

---

## Інтэрпэляцыя № 30

дэпутата Рак-Міхайлоўскага з Беларускай Сялянскага-Работніцкай Грамады і таварышоў да пана Міністра Рэлігійных Вызнаньняў і Публічнае Асьвесы ў справе перасьледаваньня вучыцеля— беларуса п. В. Катовіча варшаўскім школьным Кураторыумам.

Нацыянальны ўціск на беларускіх землях нішчыць і падкопвае беларускае школьніцтва ўжо ў самым пачатку яго істнаваньня. Ужо ў папярэдніх інтэрпэляцыях і выступленьнях гаварылі мы аб тактыцы школьнае ўлады, якая з адумысьнай злосьвасьцяй выкінула з беларускіх зямель вучыцялёў-беларусаў, затрымоўваючы іх — **супраць іх волі**—у ваяводзтвах Каранной Польшчы,—у Віленшчыне-ж працуюць вучыцялі-палякі, ня ведаючыя беларускай мовы. Дзякуючы гэтай тактыцы, школьная ўлада можа выкручвацца перад дамагаючайся беларускіх школ люднасьцяй—нястачай адпаведных пэдагогічных сіл.

Вось, для прыкладу шлях народнага вучыцеля, які ярка ілюструе адносіны, пануючыя ў беларускім школьніцтве.

П. В. Катовіч працуе, як народны вучыцель, ад 1914 году. У канцы 1921 г. адчыніў ён у свавёй роднай вёсцы Каўшэлёва, Дзісьненскага пав., прыватную беларускую народную школу. За яго карысную працу павятовы школьны інспэктар назначыў яго кіраўніком адчыненай ім школы. Аднак, хутка пасьля гэтага зажадалі ў яго, каб ехаў на дапаўняючыя курсы польскае мовы ў Кракаў і то **пад пагрозаю забароны вучыць**. П. Катовіч прабыў год у Кракаве, дзе скончыў з вельмі добрым вынікам памянёныя курсы, а школа, якую ён адчыніў у Каўшэлёве, праз увесь гэты час **была зачынена, бо не знайшлі заступніка на яго месца!**

Скончыўшы курсы, зьвярнуўся п. Катовіч да дзісьненскага школьнага інспэктара, просячы пазволіць яму вучыць у той самай школе ў Каўшэлёве. Але там ён даведаўся, што гэта немагчыма, бо беларускія вучыцялі, якіх, як Катовіча, выслалі на дапаўняючыя курсы ў Кракаў, знаходзяцца ў распараджэньні Міністэрства Асьветы, якое на далей будзе кіраваць іх пэдагагічнаю дзеяльнасьцяй. І фактычна—у хуткім часе атрымаў п. Катовіч паведамленьне з міністэрства, што дакуманты яго адаслалі ў варшаўскі кураторыум, які пераслаў іх у сваю чаргу павятоваму інспэктару ў Раве на Мазоўшу. Гэткім чынам **беларускі вучыцель** быў назначаны тымчасовым вучыцелем у народнай школе ў **Дзюрдзёлах у павеце Рава-Мазавецкая.**

Усе просьбы і стараньні п. Катовіча аб **пераносе** яго ў Віленскую акругу былі **дарэмны**. Адмаўлялі яму катэгарычна, ня кажучы нат' аб матывах гэтай адмовы. Аб сумленнай і карыснай працы п. Катовіча сьведчыць факт, што на прапазыку інспэктара міністэрства паперай з дня 7/IV. 1925 г. № 2460/I залічыла яго да катэгоры выквааліфікаваных вучыцялёў, звальняючы яго ад прадпісаных эгзаменаў.

Пасьля атрыманьня гэтага дэкрэту п. Катовіч ізноў пачаў старацца аб пераносе яго ў Віленскую акругу. І ізноў адказалі яму: „Кураторыум Варшаўскай школьнай акругі паперай з дня 2/VI. 1925 г. № 14638/I на падставе паперы Мін. Р, В. і П. А. з дня 24/V. 1925 г. № 7625/I паведаміла мяне, што просьба Ваша аб пераносе Вас у Віленскую школьную акругу разгледжана адмоўна“. Ці інакш, кажучы звычайнай мовай: мусіце застацца і працаваць на Мазоўшу, бо Мін. Р. В. і Пуб. Асьв. забараніла нам высылаць вучыцялёў-беларусаў у іх родныя старонкі. — Трэба сказаць, што долю п. Катовіча падзяляюць яшчэ 200 беларускіх вучыцялёў.

Што схіліла міністэрства выдаць гэткі загад, нятрудна дагадацца. Выясьненьне гэтага знаходзім зноў у афіцыяльных адказах школьных інспэктароў, якія на жаданьне беларускай люднасьці ўзнаўленьня функцыянаваўшых датуль беларускіх школ і адчыненьня новых згодна з апош-

німі языковымі ўставамі, маюць гатовы адказ: **адмаўляю з прычыны нястачы адпаведных пэдагагічных сіл.** Ці—аднэй рукой урад дае „вольнасьцёвыя“ языковыя ўставы, а другою піша загады, якія забараняюць увядзеньне гэтага ўставу ў жыцьцё. Ахвярамі гэтакага палажэньня зьяўляюцца 200 вучыцялёў, якія, як п. Катовіч, адарваны ад свае старонкі ды сям'і і вядуць нэндзнае жыцьцё ў прымусовым выгнаньні.

Падпісаныя пытаюцца ў пана Міністра Р. В. і Пуб. Асьв.:

1) Ці і далей будуць тасавацца мэтады нішчэньня беларускага школьніцтва і пляновага польшчаньня беларускіх школ?

2) Ці склонны п. Міністар узяць назад загад Міністэрства Р. В. і Публ. Асьветы з дня 24/V. 1925 г. № 7625/I, на падставе якога школьная ўлада забараняе вярнуцца беларускім вучыцялём у школы Віленскае школьнае акругі і затрымоўвае іх у Каранной Польшчы?

3) Ці стараньні п. Катовіча аб пераносе яго ў Віленскую Акругу будуць прыхільна вырашаны?

Варшава, 5, II. 1926 г.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Сойм.

На паседжаньні 16/III канвэнт сэньораў Сойму—згодна з дамаганьнем ураду—пастанавіў—адлажыць паседжаньні Сойму аж да павароту з Жэнэвы прэм. Скшыньскага... Прыблізна дзень першага паседжаньня назначаны на 22 сакавіка. А там—зараз-ж пачнуцца жыдоўскія, а пасьля—каталіцкія сьвяты, дык ад Вялікага панядзелка паслы ізноў разьедуцца на вакацыі... Ня жыцьцё, але—масьляніца...

### Жыдоўскае Кола ў Сойме пераходзе ў апазыцыю.

Пасьля пастановы толькі - што адбытага зьезду сіоністаў у Польшчы, які рашуча заклікае соймавае прадстаўніцтва жыдоў у Польшчы да пераходу ў апазыцыю, пачаліся нарады Жыдоўскага Кола ў Сойме. Новы старшыня п. Гартгляс прачытаў сваё экспозэ, у якім прапануе пераход у апазыцыю. Рашучае галасаваньне адложана, а пастанову Кола можна згары лічыць пэўнай...

### Выступленьні студэнтаў.

Сьледам за Варшавай у цэлым радзе ўнівэрсытэцкіх мест (у тым ліку і ў Вільні) адбыліся студэнцкія мітынгі і дэманстрацыі з дамаганьнем сталага мейсца ў Радзе Лігі Народаў для Польшчы.

### Польская буржуазія і ССРР.

Як паказуе „Rzeczpospolita“, урад ужо вызначыў дэлегацыю, якая паедзе ў Маскву вясьці перагаворы аб польска-радавай targовай умове.

На чале дэлегацыі будзе стаяць п. Глівіц, колішні пэпэзсавец, а пасьля сэкрэтар зьездаў гандлю і прамысловасьці ў царскай Расеі. Польскія прамыслоўцы рашуча націскаюць на ўрад, каб хутчэй рабіў умову з ССРР і гэтак даў магчымасьць вывазу на Усход польскіх тавараў.

### Далейшы спадак злотага.

Відаць,—у зьвязку са спадкам наагул надзеі на паразуменьне дзяржаў у Жэнэве, як і на перамогу „польскага пункту гледжаньня“,—наагул залішне нэрвовая і ўражлівая польская валюта пачынае патроху млець і слабнуць. У аўторак злоты ўжо перайшоў курс—8 зл. за даляр, у сераду паволі, але ня спыняючыся, спадаў яшчэ ніжэй.

### Арышт вялікай цэнтральнай друкарні камуністаў.

Варшаўская паліцыя раскрыла тую канспірацыйную друкарню, у якой друкаваліся быццам на ўсю Польшчу камуністычныя адозвы і ўсякая іншая літэратура. Разам з тым арыштавана значная лічба быццам найвыдатнейшых тэхнічных сілаў камуністычнай партыі ў Польшчы, сярод якіх — шмат прадстаўнікоў Цэнтралі. Газэты пішуць, што ўсяго арыштавана каля 80 асобаў.

## Заграніцай.

### Канфэрэнцыя міністраў працы ў Лёндане.

Адначасна з Агульным Зборам Лігі ў Жэневе, які вырашае справы мірнага сужыцьця буржуазных дзяржаў, у Лёндане распачала працу міжнародавая канфэрэнцыя, маючая на мэце выпрацаваньне спосабаў і мераў дзеля забясьпечаньня сацыяльнага міру ўнутры пабудаваных на сацыяльным уціску і вызыску буржуазных дзяржаў... Ясна-ж ужо згары, што, як у міжнародавым сужыцьці так званыя „мір і згода“ — гэта толькі прыкрытае гучнымі словамі пānаваньне мацнейшых—„вялікіх“—над слабейшымі невялікімі дзяржавамі, а гэтым апошнім—дзеля іх пацехі — над „недзяржаўнымі народамі“,—таксама і так-званы „сацыяльны мір“ у буржуазных дзяржавах азначае толькі—замацаваньне панаваньня валадаючых клясаў над працуючымі...

Запраўды-ж вельмі цікава, што ў найбольш моцных і багатых з дзяржаваў, якія якраз і высунулі задачу аб'яднаньня работніцкага заканадаўства ў-ва ўсіх дзяржавах, якраз пануе найбольш неабмежаваны ўціск і вызыск работніцкай клясы буржуазіяй... Напрыклад, Амэрыка і Англія, як'я наймацней стаялі на Вашынгтонскай канфэрэнцыі за заканадаўчае ўвядзеньне ў-ва ўсіх краёх 8-мігадзіннага дня працы,—самі дагэтуль не зацьвярдзілі пастановаў гэтай Канфэрэнцыі...

Цікава, што наагул з 17 адбыўшыхся ўжо міжнародавых канфэрэнцыяў у справе аховы працы і жыцьця работнікаў — Амэрыка не зацьвярдзіла яшчэ ніводнай. Англія—7, Францыя—3, Нямеччына—4... Яшчэ цікаўней, што першай дзяржавай па ліку зацьверджаных канфэрэнцыяў зьяўляецца Польшча, у якой—можна-б падумаць здалёку!—пануе рай для працоўных... Трэба тут толькі ўнясьці адну дробную „папраўку“: „ратыфікаваць“ (зацьвярдзіць) — адно, але тасаваць на дзеле—гэта-ж ужо нешта зусім іншае...

### Чуткі аб адстаўцы Брыяна.

У палітычных колах Францыі кружаць чуткі аб магчымасьці новага ўрадавага крызісу ў выніку краху ўсей „лёкарнскай“ палітыкі Брыяна.

На чале новага габінэту мае стаць Кайо, які-б пачаў, як у галіне ўнутранай таксама і міжнародавай, ясна і адкрыта рабіць тое, што Брыян хоча, але ня мае сьмеласьці рабіць. Быццам у выніку гэткага пералому Кайо мае пачаць з... арышту цэлага раду палітычных дзеячоў у краі, а ў замежнай палітыцы — рашучым і агкрытым паразуменьнем з Нямеччынай—коштам Польшчы!..

### Закрыцьце ўнівэрсытэтаў у Румыніі.

З прычыны студэнцкіх разрухаў зачынены ўнівэрсытэты ў Бухарэсьце і Яссах...—Дый слушна: каб душыць сялян дый меншасьці, для баярскіх сыночкаў зусім не абавязкова вышэйшая асьвета!

### Працэс аб забойстве пасла Маттэотті.

У Рыме 16 сакав. пачаўся працэс аб забойстве—пры ўчасьці найвышэйшых прадстаўнікоў фашыстаўскага ўраду, не выключаючы і самога Мусоліні,—сацыялістычнага пасла Маттэотті, які раскрываў у прэсе ўсё, што рабілася фашыстаўскім тэррорам у Італіі.

### Мэмарял Клайпэды ў Лізе Народаў.

Аўтаномная Клайпэда падала ў Лігу абшырны мэмарыял, — у якім скардзіцца на Літоўскі ўрад, што той не выпаўняе Клайпэдзкай канстытуцыі.

### Комінтэрн і радыё.

Адна з нямецкіх газэт паведамляе, што Комінтэрн зьвярнуў вялікую ўвагу на выкарыстаньне для мэтаў сусьветнай камуністычнай прапаганды радыё-тэлеграфічных апаратаў. У зьвязку з тым камісарыят почт і тэлеграфаў ССРР распачаў працу дзеля пашырэньня сеці радыё-станцыяў. — Гэткім чынам узмацняецца жывая сувязь між працоўнымі ўсіх краёў, і ў крытычны мамэнт Комінтэрн мае надзею выкарыстаць гэтую сувязь — дзеля агульнай барацьбы.

# Аб чым пішуць.

### Пагрозы чыгуншыкаў.

„Dz. Wil.“, орган самых заядлых нацыяналістаў і чарнасоценцаў, зьмясьціў у № 55 стацьцю, якая вельмі характэрна дзеля настрояў працаўнікоў польскіх чыгунак. Газэта пана Іогана Обста перадрукоўвае з сваімі камэнтарыямі выступленьне газэты „Kolejowiec Polski“, якую выдае Польскі Саюз Чыгуншчыкяў, проці праектаванае ўрадам рэдукцыі служачых на чыгунках:

> „Польскі Саюз Чыгуншчыкаў выразна пагражае „бурай“.
>
> „Загадзя перасьцерагаем,—піша „Kolejowiec Polski“, — бо навет ужо самы праект, дастаўшы больш рэальную форму, мог-бы ўзьняць буру, якое ніхто і нішто ня здолее ўсьцішыць. Мы лішне добра ведаем настроі, якія пануюць ува ўсіх слаёх дзяржаўных працаўнікоў, каб хоць на мамэнт маглі сумлявацца адносна да вынікаў, якія пацягнула бы правядзеньне ў жыцьцё гэткіх праектаў“.
>
> Далей „Kol. Pol.“ падбівае да выразнага бунту, апэлюючы ня толькі да чыгуншчыкаў, але да ўсяго грамадзянства, каб „выступіла фронтам проці мяркаваньняў, якія ўжо заўтра маглі-б прыняць рэальныя формы“.
>
> Урэшце Галоўная Ўправа Польскага Саюзу Чыгуншчыкаў заяўляе, што „набралася ўжо гэтулькі гаручага матар'ялу, што трэба сьцерагчыся іскры, якая магла-б выклікаць пажар“.

З прычыны такіх заяваў чыгуншчыкаў „Dz. Wil.“ піша:

> Мы не зьвярнулі-бы на гэныя пагрозы ўвагі, калі-б яны зьявіліся ў нейкай чырвонай лі-

# „Конкордат“ мін. Грабскага з праваслаунай „аутакэфаліяй“.

> У аднэй з беларускіх газэт быў зьмешчаны закід проці Радавае Беларусі, што там быццам-то няма свабоды веры. Газэта гэная гэтым як быццам хочаць сцьвярдзіць, што пад Польшчай дык запраўды-ж істнуе поўная свабода веры—і то не на паперы, а—на дзеле...
>
> Як выглядае гэтая „свабода“ ў Польшчы, паказуюць факты, зьмешчаныя ніжэй.

Польскі міністар асьветы і рэлігійных вызнаньняў, Станіслаў Грабскі, апрацаваў „праект праўнага палажэньня праваслаўнай царквы ў Польшчы“. Вось аб гэтым праекце мін. Грабскага трэба даць пэўнае паняцьце нашым чытачом: ён—нязвычайна характэрны для польскае дзяржаўнае палітыкі наагул.

Найцікаўней для таго „раўнапраўя“ і „роўнасьці“, на якіх грунтуецца (на паперы) польская Канстытуцыя, параўнаваць абодва тыя „конкордаты“, якія польскі ўрад стварыў для каталіцкага касьцёлу і для праваслаўнай царквы. Калі конкордат з рымскім папай амаль ня зусім звольніў каталіцкае духавенства ад улады польскай дзяржавы, пакінуўшы вышэйшую ўладу над ім галаве замежнага „Рымскага Інтэрнацыяналу“, другі „конкордат“—з праваслаўнай царквой — да канца і безапэляцыйна падпарадкаваў царкоўную іерархію і ўсё царкоўнае жыцьцё ў краі — урадава-паліцэйскай апецы і самаволі...

Дый ці-ж магло быць інакш?—Першы „конкордат“ (дагавор) заключаўся між дзьвюма незалежнымі, але моцна заінтэрэсаванымі адна ў аднэй, старонамі. Другі „конкордат“ польскі ўрад мае заключыць з сваімі ўласнымі, купленымі за пэнсіі і „ганоры“, урадоўцамі—япіскапамі і сьвяшчэньнікамі, якіх можа фактычна ў кожны мамэнт ня толькі звольніць „са служты“, пазбавіць сану, але і—выслаць з краю, ці пасадзіць у вастрог (у манастыр)... Дык ня дзіва, што ніякай пашаны ані даверыя да гэтых сваіх купленых слуг польскі ўрад ня мае; дзеля таго і ніякай самастойнасьці ім—ані фактычнай, ані праўнай — у праекце не дае, ня гледзячы на гучнае, але зусім пустое названьне „аўтакефалія“ (што значыць якраз: „уласная галава“, уласны закон).

На гэтай апрацаванай польскай эндэцыяй „канстытуцыі“ для праваслаўнай царквы ў Польшчы найлепш спраўдзілася ведамая праўда слаўнага сацыяліста Лясаля, які казаў, што кожная пісаная канстытуцыя—толькі точнае адбіцьцё фактычных адносінаў тых рэальных сілаў, якія істнуюць у дзяржаве... Дык ясна-ж, што з моцным, здольным да барацьбы і грозным праціўнікам заключаюць запраўдны дагавор. А для праціўніка слабога, які баіцца барацьбы, мае страх да пануючай сілы, але ня мае пашаны да сябе і сваіх ідэалаў, — для такога контр-агента папросту пішуць „паліцэйскія прадпісаньні“, за нарушэньне якіх будуць садзіць—за рашотку...

Такімі палітычна-паліцэйскімі прадпісаньнямі і зьяўляецца апрацаваны п. Грабскім „праект“.

---

У матывах, далучаных да праекту, так адразу ясна і паказана палітычна-паліцэйская мэта ўсяго „конкордату“. „Праект“ Грабскага мае мэтай перад усім „затрымаць цэнтрабежныя імкненьні (да аддзяленьня) крэсавага насяленьня Польшчы“... Вось для гэтай чыста палітычнай акцыі, для якой польскі ўрад мае, апрача крэсавай адміністрацыі, паліцыі, дэфэнзывы, пагранічнікаў і т. п., выкарыстаць яшчэ і праваслаўнае духавенства,—трэба, як гаворыцца ў матывах да праекту, узалежніць гэтае духавенства ад ураду эканамічна (купіць за пэнсіі!) і ўзалежніць цалком, праўна і палітычна, праваслаўную царкву („аўтакефальную“!) ад дзяржавы (ад ураду), каб яна ня мела ніякай іншай апоры ані па-за межамі дзяржавы (якую мае каталіцкі касьцёл—у Рыме!), ані, зразумела, у царкоўна аб'яднаным народзе. Зусім ясна і адкрыта „Матывы“ кажуць, што першым крокам дзеля гэтага закабаленьня царквы ўрадам і была „аўтакефалія“...

---

У „Праекце“ гэтыя прынцыпы распрацаваны вельмі спрытна. „Польская дзяржава (паліцыя...) клапоціцца аб еднасьці і вольным разьвіцьці праваслаўнай царквы..., даючы царкоўнай уладзе (назначаным папам-чыноўнікам) адміністрацыйную і фінансавую дапамогу“...

Але найцікаўней, што—паводле „Праекту“—найвышэйшая начальніцкая ўлада ў праваслаўнай царкве ў Польшчы належыць... да п. Прэзыдэнта Рэспублікі, як яе апякуна і пратэктара... Гэта ўсё цалком так і напісана ў „Праекце“... З „начальніцкай улады“ п. Прэзыдэнта выключаецца толькі багаслоўская часьць праваслаўя, — навука веры. Але зразумела, што свае „найвышэйшыя правы“ п. Прэзыдэнт выконвае пераважна праз... міністра рэлігійных вызнаньняў, ці — п. Грабскага! А той ужо, зразумела, — праз спраўную армію падуладных мін. Рачкевіча...

Найвышэйшым органам духоўнай улады зьяўляецца Варшаўскі Сынод... Што гэта за Сынод, гэта ўжо ведама добра ўсім... Арганізацыя яго „ўладаў“—няцікаўна, бо — зусім фікцыйная. Кандыдаты на становішчы духоўных айцоў павінны быць „чыстымі“ маральна і палітычна, аб чым аканчальна вырашае.. міністар вызнаньняў, бяз згоды якога ня можна навет узвадзіць у духоўны сан... Народна-грамадзкі элемэнт (учасьце прыха-

# Карэспандэнцыі.

## Як вучаць.

(М. Рось, Ваўкавыскага пав.).

Нашы праваслаўныя духаўнікі — сьвяшчэньнікі выхаваны ў расейскім дусе з вялікай падкладкай казёншчыны. Усе іх чыны, усе пастункі, кожнае слова, а пропаведзі асабліва, перапоўнены гэтай-жа казёншчынай, што—ясна—вельмі шкодна адбіваецца на навучаньні сваіх прыхаджанаў,—на падняцьці іх рэлігійна-маральнага духу.

Гэты благі бок такога стану рэчы вельмі характэрна і паказальна праяўляецца ў нас—у Росі. —Наш сьв. Хвядос, калі выйдзе на пропаведзь, то кажа яе перад усім парасейску (а люднасьць у нас уся беларуская), а акром таго кідае завучаныя, казённыя фразы, перапоўненыя славамі: „прокламация“, „рэформация“, „невоздзержание“, „нерадение“, „забвение“, „отцам духовным непочтение“ і гэт. далей. Так што навет інтэлігент нічога ня можа вынесьці з гэтай пустой фразэолёгіі, а кабеты толькі хрысьцяцца, ды ўздыхаюць „пускаючы“ сьлязінку, і сумуючы, што нічога ня могуць зразумець;—дзеці-ж—падросткі стаяць, як стаўпы, і ані ў зуб нічога ня могуць уцяміць гэтых „мудрых“ слоў.

Ці-ж тое было-б, калі-б з амвону палілася чыстая зразумелая нам беларуская мова, клічучая людзей да праўды, да дабра, да шчасьця; —і без фразэолёгіі,—а так проста і шчыра. — Усе-б тады зразумелі, усім бы была карысьць, бо тое добра, што проста, шчыра і зразумела.

— Дзеці-ж нашы — надзея наша, ня чуюць слова праўды — слова Божага ў школе, бо ў ёй Закону Божага ня вучаць, бо яна польская — папольску-ж яны ані ў зуб не разумеюць; — у царкве таксама нічога не разумеюць, бо там, калі гавораць, дык парасейску, чаго дзеці нашы тож не разумеюць.

Дык пакайцеся, айцы духоўныя, покуль ня позна—загаварыце да народу зразумелаю для яго роднаю яму моваю. Бо-ж надышлі іншыя часы,—народ імкнецца да свайго,—роднага, блізкага яго душы і сэрцу.

Вы-ж бачыце, як далёка вы адышлі ад народу, як народ вам ня верыць, як вашае слова зьяўляецца пустым, няшчырым, калі народ яго не разумее;—народ вам ня верыць, ня йдзе за вамі, цэрквы ў вас пустыя.

**Прыхаджанін Я. Ц.**

## Растрата грамадзкіх грошы.

(З Віленшчычы).

Каморнік Віленскага Акружнага Суду Шайюк, які кватараваў у м. Івье і, растраціўшы некалькі тысячаў злотых, сьцягнутых з жыхароў, хацеў уцячы ў Радавую Расею, але на граніцы яго злавілі і атправілі ў м. Валожын, скуль яго перапаслалі ў м. Вілейку на казенную дачу—у вастрог.

**Пацярпеўшы.**

## Паштовы ўрадовец—злодзей.

(Пошта Манькавічы, Пастаўскага пав.).

На нашай пошце служыць п. Ашчановіч, з якім здараюцца вось якія „прыпадкі“.

— Ігнату Партасу з в. Мястэчка слаў зяць 45 злотых, з якіх 20 зл. забраў п. Ашчановіч; — і ён навет прызнаецца ца „граху“—кажа—„аддам, але цяпер маю вялікую патрэбу“.

Пятруку Лашуку з Чарнят слалі 50 дал., — дык і гэтыя 50 дал. паціханьку забраў урадовец Ашчановіч,—думаў—разжывецца. Але даведаўся аб гэтым Лашук і перадаў справу ў суд. Тады Ашчановіч і плакаў і прасіўся, каб як небудзь паміріцца; — абяцаў, што ня толькі грошы аддасьць, але ўжо гэтым займацца ня будзе! — Лашук дараваў Ашчановічу, — а грошай па сёньняшні дзень не атрымаў; Ашчановіч жа і далей займаецца „забіраньнем“ чужых грошаў.

— Віктару Асяпінку з Касіч слаў сын 300 зл.,— і гэтыя грошы Ашчановіч „прытрымаў“. Прайшло тры месяцы,—даведаўся Асяпінка і — пайшоў па грошы; Ашчановіч—„ах! так, так грошы ёсьць,—гэта я забыў“!

— У Агародніка Варанец выняў гэты „спрыт“ з канвэрта 5 даляраў.

— Ганне Бярняк муж з Амэрыкі слаў даляры,— дык і ў яе Ашчановіч выняў 15 даляраў.

— Калі пісьмо прасьвечваецца, то Ашчановіч „прапускае“ яго;—калі-ж не—дык у кішэнь яго—потым „разьбярэ“. Яму навет і прыказку зложылі:

kładź pan do kieszeni,
potem pan rozbierzesz i zobaczysz,
co w tym liscie leży!

І ня раз бывала, што чужое пісьмо вываліцца ў яго з кішаня.

Дык вось як у нас „вядзецца“.

**Сэкрэт.**

## Голас з вёскі.

(Баранавіцкага пав.).

У паветры з кожным днём усё больш і больш чуецца перадвыбарнага запаху. Застаецца да выбараў толькі якіхсьць паўтара году. Агітацыя паволі ўжо пачынаецца і ў сувязі з гэтым цэлыя хмары розных няпрошаных гасьцей — ваўкоў у авечай скуры, лезуць у нашую вёску. Чаго? На вошта? Адказ ня трудны. Гэтыя паны: П.П.С., „Вызваленьне“ і др., лакомыя на нашы галасы, па прыкладу 1922 г. пачынаюць ізноў жыраваць на пасольскія мандаты.

Хачу вылічыць нашых гэтых паноў. І так: „Вызваленьне“ — яно, як надта штучна зьлепленае, ужо развальваецца і затым траціць даверые нашае вёскі; яно ўжо не абмане так, як у 1922 г. Авечая скурка зьдзерлася, шыла вылезла з мяшка.

Кампанія з пад газэціны „Беларускае Слова“ (перш Грамадзянскі Голас“) таксама надта добра ведама, дык паясьненьняў ня трэба.

„Найлепшым прыяцелем“ у цяперашні час зьяўляецца П.П.С. Гэта партыя з сваімі фальшывымі лёзунгамі трапляе на добры грунт сярод нашага сялянства, якое, мала разьбіраючыся, ахвотна йдзе за ею. А тымчасам—хто-ж, як не П.П.С. наслаў нам асаднікаў, галасаваў за пазыкамі для тых-жа асаднікаў, падпісаў Рыжскі трактат? Пры помачы чыіх галасоў прайшоў устаў—ня ўстаў, а карыкатура! — зямельнае рэформы. А цяпер хто, калі не пэпээсы, подла і крывадушна баламуцяць людзей, абяцуючы рай на зямлі?

Многа яшчэ другіх „добрых сяброў“ можна спаткаць у нашых вёсках, але яны мала распаўсюджаны, дык ня варта пра іх гаварыць.

Браты сяляне! ня верце ўсім гэтым ворагам, якія толькі цяпер прыкідаюцца „шчырымі прыяцелямі“. Ня верце ўсім гэтым лёзунгам, камітэтам і „Красным Знамёнам“ пэпээсаўцаў, бо ўсё гэта агідная дэмагогія, фальш. Адсылайце іх туды, адкуль прыйшлі. Для нас адна праўдзівая дарога — Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада!..

**Омэга.**

# Беларусы у Латвіі.

## Лоўля галасоў цёмных беларускіх сялян.

У мінулым годзе, увосені 3/X адбыліся выбары ў Латвійскі Сойм.

Рыхтаваліся да іх і беларусы, хоць праўда не з такой энэргіяй, як іншыя партыі; дзеля таго, што нашых грамадзян—сьвядомых дужа мала, а цемры і ворагаў—поўна. На выбарах праваліліся, бо нашыя сілы былі слабыя, а ворагі, якім патрэбны былі беларускія галасы, ашукалі другі раз нашых гаротных-беларусаў, яны не затрымліваліся перад нягоднымі паступкамі і рабілі іх адкрыта.

Падам пару прыкладаў, як ашуківалі нас—ворагі: **пробашч кс. Табарэ** у м. Пустыня, Дзьвінскага пав., дык адкрыта на споведзі перад выбарамі ўсім бабам казаў; каб галасавалі за № 25 (польскі), „kiedy nie będziecie głosować za 25, i ja się dowiem, to a ni do spowiedzi, ni chrzcić i pogrzebać, tego nie będe“, (калі ня будзеце галасаваць за № 25 і я даведаюся, то ані да споведзі ня прыму, ані хрысьціць, ані хаваць ня буду).

У вёсцы Стальтах, Забалінскай гміны, Дзьвінскага павету жывець гр. **Люкада Рынгіс**, — каторая жывець на хлебе і солі дзеда, і дабром дзеда кідаецца на ўсе бакі; дык гэта самая асоба ў мястэчку Вялікая Індрыца, пры касьцелі крычала да баб: **„толькі глядзіце, бабкі, галасуйце за № 25, таму буду даваць па 20 фун. мукі“** (а муку зразумела будзе красьць у дзеда), а ў Дзьвінску дык сам гласны мястовай думы, былы пан гр. Зылберг, баб, якія казалі, што будуць галасаваць за № 25, прывозіў—да ўрнаў і адвозіў да хаты на свой кошт.

Вось, калі патрэбны беларускія галасы нашым ворагам, якімі цукеркамі нас частуюць!..

Ды й дзе ты там усё ўспомніш і апішаш, да чаго здольны нашы ворагі, каб ашукаць цёмнага — беднага мужыка. Сьцеражыцеся, браты беларусы, гэтых паноў пры выбарах.

**Я. К.**

# Беларусы у Чэхаславакіі.

## Выстаўка Беларускае Кнігі ў Празе.

8, 9, 10 сакавіка г. г. ў Празе Чэскай адбылася выстаўка беларускае, чэскае, украінскае, расейскае і каўказкае кнігі. Выстаўка гэтая зьяўляецца падрыхтоўкай да міжнароднае выстаўкі друкаў у Празе ўлетку. Дзякуючы працы сяброў студэнтаў М. Русака, В. Лаўскага, М. Ільяшэвіча і І. Сланеўскага, а таксама старэйшых грамадзян, беларускі кут выглядае дужа прыгожым і цікавым; мае асобнае мейсца і нацыянальныя адзнакі.

Адразу пры ўваходзе ў пакой кідаецца ў вочы вялікі абраз старога нашага друкара Францішка Скарыны, які сурова аглядае працу сваіх маладзейшых землякоў. Партрэты Ів. Луцкевіча і А. Гаруна, нацыянальныя сьцягі, гірлянды з зяляніны ўдала разьмешчаны і памастацку аздабляюць умела разложаныя экспонаты.

Праўда, выстаўка далёка ня поўная, не хапае кніжак перад усім з Радавае Беларусі, а часткова і Заходняе Беларусі. Віной гэтаму ёсьць нядбаласьць краёвых арганізацыяў, якія не адгукнуліся на просьбу аб пазычцы кніжак на выстаўку. Загранічныя беларускія выданьні прадстаўлены поўнасьцю: бэрлінскія, ковенскія і пражскія. Агульны лік кніжак на выстаўцы нашай перавышае 200. З навейшых кніжак мімаходам можна адзначыць пераклад падручніка Віппэра: „Новая гісторыя“ і „Навейшая гісторыя“, рэшта вядома беларускаму грамадзянству з бібліографічных зацёмак. Карты Беларусі, паштовыя беларускія пісулькі, беларускія маркі, а таксама тлумачэньні да гэтага беларускімі студэнтамі, дакладна інфармуюць чэскае і наагул грамадзянства, якое даведваецца выстаўкі ў вялікай лічбе.

Мусім адзначыць, што гэтая выстаўка амаль-што ў першы раз паказвае беларускі друк замежамі. Канстатуем таксама і тое, што нашыя выданьні не прэтэндуюць на багацьце і мастацкасьць у міжнародным параўнаньні; гэта скромнае выяўленьне нашага духа праз друкаванае слова памеры нашага нацыянальнага ўзросту і матар'яльных засобаў. Але гэта нісколькі не абніжае нас у правох з іншымі народамі.

Асаблівую ўвагу і цікавасьць праяўляюць журналісты, якія ашукваюць прозу дзеля перакладаў. Многія з Пражскіх газэтаў адводзяць асаблівую ўвагу беларусам. Ня меншую цікавасьць праяўляе профэсура.

Адначасова з выстаўкай кнігі адбываецца выстаўка газэт і часопісяў за 1925 г. Беларускіх газэт (назоваў) за 1925 год па замежамі БССР налічваецца 29 і ўсе яны былі разьвешаны дзеля глядзельнікаў. З выстаўкі зроблены адпаведныя фотографічныя зьнімкі.

Ведама, як і заўсёды, не абыйшлося й тут бяз „гутарак“ з нашымі дабрадзеямі расейцамі, якія, дзякуючы сваёй уплывовасьці на розныя гэткія колы, імкнуліся беларусаў і ўкраінцаў стушаваць у „общемъ русскомъ морѣ“. Бясспрэчна, што гэтая выстаўка будзе найлепшым успамінам беларускай калёніі ў Празе аб Скарынінскім 400 юбілеі.

Аб уражаньнях чэскага грамадзянства і іншых зацёмках аб выстаўцы напішам пазьней.

Прага 9-га сакавіка.

**Зубр.**







Выдавец: Базыль Юшка.

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.